http://navinki.promedia.minsk.by

# НАВІНКІ

15 - 25 лютага 2001 №3(41) Кошт свабодны

**Як разумЕць**

Пі-ар праз прызму ўфалёгіі

стар.2

Настольная гульня «Крэдытор» на стар.4-5



Булава Гетмана

Інтэрактыўная аповесьць на стар.7

Сьвяткаваньне дня сьв.Валянціна ў сям'і Сымпсанаў



Комікс на стар.8



# Мэсія МВФ

16 лютага да нас прыяжджае місія Міжнароднага Валютнага Фонду. У чаканьні лёсаноснай падзеі ўсё мацней б'ецца міякард мільёнаў сыноў і дачок, унукаў і ўнучак Беларусі. Едуць! Едуць! – з надзеяй чуецца паўсюль: ў кожнай курылцы сядзібаў БНФ, кожнай прыёмнай ЖЭС, кожным кабінэце Міністэрства фінансаў, Адміністрацыі Прэзыдэнта... Па эпахальнасьці Місію можна параўнаць хіба што толькі з прыняцьцем хрысьціянства ў 988 годзе. Сёньня мы болей чым ніколі нагадваем тых канібалаў-паганцаў, якія тады, тысячу гадоў таму, акі зьвяры неразумныя блукалі па менскаму плато. Без права на выратаваньне, непрыстойныя і брудныя, мы яшчэ ябіталі стаямі ў сваіх аднаярусных зямлянках, дзе панавалі рэшткі ганебнай родава-племянной ураўнілаўкі...

Працяг на стар.4

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 15.02.2001г., а 00.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №169

# Як разумЕць

## (з пункту гледжаньня ўфалёгіі)

**Зьяўленьне зуброў, касьцюшак, чэгевараў і іншых даўно памершых вядомых гуманоідаў на вуліцах гораду?**

Што гэта? Пазазямная экспансія ў нашае жацьцё ці масавыя галюцынацыі? Газэта *Навінкі* вырашыла правесьці апытаньне сярод прахожых Менску. Пытаньне было вельмі простае: «Што такое Зубр?».



**Маці Тэрэза, медсястра**: «Я проста раблю сваю справу і ведаць нічога ня ведаю».



**Тадэвуш Касьцюшка, валацуга**: «Зубр, гэта акліматызаваны ў белавежскіх джунглях амэрыканскі буйвал».



**Спартак, цыркач**: «Не, зуброў я не люблю, ад іх моцна ваняе. Мне больш падабаюцца гімнасткі ці, на худы канец, коні».



**Ўільям Ўолас, фэрмэр**: «О! Гэта ня проста вялізная карова, а бадай 800 кг мясапрадуктаў вышэйшай якасьці».



**Эрнэста Чэ Гевара, міністар фінансаў у адстаўцы**: «Ой, а я і ня ведаю, а «зуброўку» на зубрах настойваюць?»



**Уладзімір Высоцкі, музыка**: «Мяне часта просяць прасьпяваць штосьці пра зубра, але ж цяжка падабраць рыфму: Зубр – дубар – ступар...»

# Жыве БТ!




Усё пачалося з таго, што БТ абдумана і мэтанакіравана пачало праводзіць антыімпэрыялістычную інфармацыйную палітыку. Кампанія пачалася з адваёўваньня сваёй рэклямнай прасторы: зьнімаць з эфіру расейскую рэкляму і ставіць на ейнае месца «нашую родную». Прычым расейская камэрцыйная рэкляма, мэта якой замбіраваць і прымушаць гледача купіць якую-небудзь гідкасьць, пачала замяняцца на сацыяльную, якая накіраваная на кшталтаваньне, хай прымусовых, але ж пазытыўных веяньняў у грамадзкім жыцьці. Усё было ціха, пакуль НТВ не заўважыла згубу. І пачалося...

НТВ, якое і так ня надта любіць нашага «бацьку», пачало ўзбухаць, што спыніць трансляцыю на тэрыторыі Беларусі. Вось, блін, напужалі. А чаго, вы думаеце, гэтак доўга дабіваецца наш бацька?! І раптам, як па загаду, беларускія дэмакратычныя СМІ залямантавалі: «Як гэта так, БТ крадзе эфірны часі! Як жа законнасьць?! Як жа аўтарскія правы?!» Я, канешне, не фанат беларускай сацыяльнай рэклямы, але не люблю рэкляму як зьяву і лічу, што нашмат прыемней было б замяняць яе на кароткія зьвесткі з палей, ці паказ перадавікоў вытворчасьці, ці, на худы канец, на анонсы рэзанансаў і новых «спружынак палітыкі», але ж соль ня ў гэтым. Справа ў тым, што ўвесь гэты лямант быў набраны на скрадзеным «вардзе», зьвёрстаны ў скрадзеным «пэйдж-мэйкэры» і надрукаваны з дапамогай крадзенага «х'юліта». Усе гэтыя пісакі, якія так блюдуць аўтарскія правы, слухаюць у захлёб пірацкія кампакты, купляюць пірацкае відэа і інш. Ніхто і не заўважае пазытыву, які зыходзіць з факту гэтага крадзяжу. Рэвалюцыйнасьць дадзенага кроку можна параўнаць хіба што зь лёзунгам рэвалюцыі 1917 году «Грабце награбленае». Калі каналы з дапамогай рэклямы крадуць наш жыцьцёвы час, які мы выдзяляем для таго, каб паглядзець нейкі фільм ці перадачу, то чаму б нам самім не пачаць красьці эфірны час у гэтых злодзеяў? ●

# Бін-высоцкі-ладэн




Самае галоўнае для маргінальнага палітыка – гэта тое, каб пра яго гаварылі. Гэта дае надзею, што яго не забудуць і ён ня зьнікне з палітычнага пантэону. і чым часьцей гавораць, тым лепш. УНА-УНСО бярэ на сябе адказнасьць за патапленьне падлодкі «Курск», пагромы кафэтэрыяў і іншага ідыятызму; мікусоід загінае пальцы, быццам гэта ён забіў галоўнага беларускага РНЕ-шніка і г. д. Вырашыў не адставаць ад іх і Высоцкі, які на днях узяў на сябе адказнасьць за выбух бомбы ў Маскве. Нагадаю, што бомба разрадзілася на станцыі мэтро «Беларуская», што побач зь Беларускім вакзалам. Спачатку здавалася, што беларускімі баевікамі быў зьдзейсьнены такі рашучы крок, каб перарэзаць транспартны вузел, які зьвязвае нас з імпэрыяй, і давесьці да людзей, што ў РФ акрамя чачэнскіх, пачалі вайсковыя дзеяньні і беларускія партызаны. Здавалася, што вось-вось у Савеце фэдэрацыі падымецца пытаньне пра статут смаленскай вобласьці. Але ж аказалася, што гэта толькі фарс, і Высоцкі забірае свае словы назад. Можа проста гранты даражэй за славу? ●

# Тартамёты

Паступова ў Эўропе адыходзіць да гісторыі тып рамантыка-тэрарыста. На зьмену рамантыкам-бомбамятацелям з «Баявых атрадаў» эсэраў і экстрэмістам з РАФ прыходзяць вясёлыя супрацькультуршчыкі, якія сваёй зброяй абралі ня бомбы і пісталеты, а гнілыя яйкі, памідоры і тарты. У суседняй з намі Польшчы актыўна дзейнічае «інтэрнацыянал тортамятацеляў». Дзейнічае ён нядаўна і абірае сваімі ахвярамі неспадабаўшыхся ім палітыкаў. Колькасьць ахвяраў тортавага тэрарызму дасягнула чатырох асобаў. Апошнім палітыкам, якога інтэрнацыянал пачаставаў тартом, стаў Аляхоўскі, стары пярдун, кіраўнік новай палітычнай партыі права-лібэральнага толку ●



# Міжнародная панарама

**АЎСТРЫЯ**
3 лютага ў Вене прайшла шматтысячная дэманстрацыя супраць удзелу ва ўрадзе скрайне правай Партыі Свабоды, палітыка якой уключае некаторыя элемэнты нацызму, асабліва ў стаўленьні да імігрантаў. Лёзунг «палітыка без нацызму» зноў становіцца хітом.

**ШВАЙЦАРЫЯ**
4 лютага прадстаўнікі Сусьветнага эканамічнага форуму прызналі, што падчас сустрэчы ў Давосе хакеры скралі інфармацыю пра крэдытныя карткі ўдзельнікаў і гасьцей гэтага мерапрыемства. Сярод наведвальнікаў форума быў Біл Гейтс, Ясэр Арафат і Ёшыра Моры. Узлом быў зьвязаны з пратэстамі супраць палітыкі МВФ.

**ПАЎДНЁВАЯ КАРЭЯ**
У бліжэйшыя дні пачнуцца масавыя забастоўкі на ўсіх заводах і фабрыках Карэі супраць скарачэньня працоўных з прададзенай заходнім інвэстарам кампаніі Daewoo.
А ведь на гэтага гіганта працаваў кожны 6 карэец.



**ЭФІЁПІЯ**
11 лютага ў Адыс-Абэбэ прайшла дэманстрацыя жанчын супраць гвалту з боку мужчын. Яны патрабавалі адмены закона, што не прадугледжвае пакараньне мужчын за крадзёж і гвалтаваньне нявінных маладзіц, калі злачынца згаджаецца ажаніцца зь імі. Жанчыны патрабуюць раўнапраўнага сэксу.

**ЭКВАДОР**
13 лютага ўрады адмянілі надзвычайнае становішча, уведзенае пасьля моцнай хвалі індзейскіх пратэстаў, што пачаліся яшчэ напрыканцы студзеня пасьля правядзеньня «структурных рэформаў», навязаных МВФ, якія выклікалі павышэньне коштаў на паліва і праезд у аўтобусах. Спачатку быў захоплены ўнівэрсытэт і заблякаваныя ўсе дарогі. 16 лютага ўрады заявілі аб замарозцы коштаў паліва на 1 год і зьніжэньня коштаў на праезд для сацыяльна незабароненых слаёў насельніцтва. Індзейцы перамаглі!

**УКРАІНА**
З выхаваўчай калёніі для непаўналетніх у Марыюпалі зьбеглі 35 зэкаў. У ноч на 13 лютага падлеткі падпалілі штаб аховы, узарвалі сьцяну і ўцяклі праз пралом. Дзе яны зараз – невядома.

**ШАТЛЯНДЫЯ**
12 лютага паліцыя арыштавала 325 дэманстрантаў, якія заблякіявалі базу ядэрных падводных лодак Faslane. Актывісты выступалі супраць разьвёртваньня новых ракет «Трайдэнт», якія ня бачаць розьніцы паміж грамадзянскімі і ваеннымі аб'ектамі. Сярод арыштаваных – член парлямэнту Джон Халавэй і член шатляндзкага парлямэнту Томі Шэрыдан, які атрымаў ужо другое папярэджаньне за гэтую акцыю. Але ня гледзячы на рэзананс у прэсе, на воду ўсё ж была спушчаная 4 -я сьмертаносная субмарына-ракетаносьбіт.

# Несупрацiўленьне злу насiльлем...



Хто такі Махатма Гандзі? Ва ўсьведамленьні шэраговага грамадзяніна, гэта нейкі гібрыд з Буды Гаутамы і Сямёна Катоўскага. Але гэта чалавек, які заклікаў да негвалтоўнага супраціву ўладам. Ну, амаль як Талстой, хоць і ня граф. І гэтага «непраціўленца» розныя замежныя буржуазна-рэакцыйныя «гуманітарныя» фонды разам з айчыннымі прыхлябацелямі ў апошні час усё часцей выстаўляюць нам у якасьці прыкладу да падражаньня. Тэме «Негвалтоўнай барацьбы за дэмакратыю і дэмакратычныя працэсы ў Беларусі» быў прысьвечаны і прыславуты сэмінар у Вільне, які нарабіў столькі шуміхі. На гэтым сэмінары бэйбусаў зь Беларусі вучылі разнастайным цікавым штукенцыям і падколкам, якія можна прымяняць супраць улады, асабіста нічым не рызыкуючы. Паспрабуем уявіць сабе, як мэтады заакіянскіх нэабжэзінскіх могуць выкарыстоўвацца на практыцы ў нашай дзяржаве. Графічная форма дапаможа нам зрабіць гэта больш яскрава:

Трэба ўсё рабіць павольна, тым самым дэзынтэгруючы ўсю ўладавую сыстэму і адносіны да яе.

Беларускі народ павінен абараняць парлямэнт і тэлебашню сваёй прысутнасьцю, закошт масавасьці ствараючы «жывы шчыт».




Трэба прыхадзіць чыста апранутымі ў рэстараны, прызначаныя для прэзыдэнцкіх чыноў, і зыходзіць толькі з дапамогай міліцыі.



Варта выкарыстоўваць эканамічны байкот тавараў у «антыдэмакратычных крамах».



## Рынак працы на БТ

Трэба адзначыць, што сьлёзы апазыцыі наконт таго, што прэзыдэнт не дае ім выйсьці на інфармацыйную прастору краіны, маўляў, «Не дае нам нармалёва разрэклямаваць свае арганізацыі» – звычайная хлусьня. І паверце мне, старому чалавеку, рэклямы апазыцыйных арганізацый па БТ аж занадта. Ну, для прыкладу, вазьміце звычайную перадачу пра апазыцыю, якіх у нашым тэлевізары крыху менш, чым пра прэзыдэнта, і зьмяніце ў галаве словы: «апазыцыя, дэмакрат, NATO-ускі падхалім, пятая калёна» і г. д. на назву абстрактнай фірмы, хаця б «Дранікі прадакшэн», а словы накшалт «падрыўная дзейнасьць, антыдзяржаўная агітацыя, дэманстрацыя» і г. д. замяніце на слова «работа». І што, я вас пытаю, атрымліваецца? А атрымліваецца тое, што ў часы мізэрных заробкаў і вялізнага беспрацоўя ў містычнай фірме «Дранікі прадакшэн» чакаюць кожнага жадаючага, працы хопіць на ўсіх, і грошы там плацяць афігенныя. Да таго ж праца ня брудная, частыя выезды за мяжу і самае галоўнае – можаш быць упэўнены: інфляцыя цябе не кране, таму што заробак ты будзеш атрымліваць у цьвёрдай валюце (па жаданьню даляры ці водка). А якія сьветлыя пэрспэктывы развіцьця ў «Дранікі прад.»! Усё ж зацані партнэраў нашай містычнай фірмы: NATO, ЭўраСаюз, Сорас і г.д. Доказам таго, што мае думкі – гэта ня хворая фантазія чарговага зьехаўшага з глузду пэнсіянэра, можа паслужыць рэакцыя народанасельніцтва на апошнюю праграму «Тайныя спружыны палітыкі», якая была прысьвечаная няўрадавым арганізацыям, тобіш трэцяму сэктару. Паводле зьвестак «Грамадзянскай ініцыятывы», пасьля перадачы іх заваліў наплыў валанцёраў: людзей проста дастала глядзець на цудоўнае багацьце апазыцыі, яны таксама хочуць столькі зарабляць ●




## Кучма – анархіст

Як вядома, на Ўкраіне праходзяць масавыя беспарадкі. Хто пад анархічным сьцягам пярдоліў жыхароў палаткавага гарадку ў Кіеве? Гэтае пытаньне стаіць рубам перад заўзятарамі антыкучмаўскіх беспарадкаў. Сапраўды, каму ж канкрэтна даваць п..ды ў адказ? Па меркаваньні незалежных экспэртаў ёсьць некалькі тлумачэньняў, чаму ўкраінскія анархісты мудохалі антыўрадавую дэманстрацыю:

**Вэрсыя 1**. Анархісты – не анархісты, а ўкраінскі МУС, якое хоча падставіць анархаў і адпярдоліць дэманстрантаў.

**Вэрсыя 2**. Анархісты – не анархісты, а пераапранутае УНА-УНСО, якое хоча падставіць анархаў і адпярдоліць камуністаў.

**Вэрсыя 3**. Найбольш верагодная. На мяжы адстаўкі Леанід Кучма сам стаў анархістам. Адпаведна ідэямі анархізму прасякнулася ўся кучмаўская сьвіта, якая цяпер, набухаўшыся, мяцеліць усіх, хто супраць атамана.

Недамеркам з апазыцыі лепш болей не трапляць пад гарачую анархічную руку. У другі раз могуць і шаблюкай рубануць... ●



«Я і мае хлопцы стаім за маю свабодную асобу»

## ДуБко'S not dead!

Сьмерць і пахаваньне гарадзенскага кіраўніка Аляксандра Дубко стала інфармацыйным хітом пачатку лютага. інфармацыя, як кажуць, на любы густ: ад пранікнёных радкоў *Советской Белоруссии* і спачувальных словаў *Народнай волі* да абвінавачваньня Лукашэнкі ў сьмерці губэрнатара на старонках *Нашай Свабоды*. Але нягледзячы на шматлікасьць інфармацыйных зьвестак, галоўнае, як заўжды, засталося па-за ўвагай СМІ. Непасрэдная рэакцыя на падзеі простага люду – вось што абышлі ўвагай як апазыцыйныя шалкапёры, гэтак і салідны Якубовіч. А якраз яна зьяўляецца самай цікавай фішкай ва ўсёй гэтай гісторыі. Толькі ў нашай газэце праўдзівы аповяд пра тое, чым жыла Гародня ў гэтыя лютаўскія дні.

Большасьці гарадзенцаў, нягледзячы на ўвесь інфармацыйны шум, было зусім па барабану, хто, каго і чаму хавае. Галоўнае – відовішча! Менавіта Лукашэнка, а ня труп старшыні аблвыканкама здолеў прыцягнуць на плошчу Леніна больш за 10 тысяч гарадзенцаў. Агульны антураж умацоўваў атмасфэру чагосьці цікавага й незвычайнага. Аб першамайскіх традыцыях нагадвалі парадны бранявік, прыгожыя словы, вайскоўцы, мянты, чорныя «мэрсэдэсы» і чырвона-зялёныя сьцягі.

Просты народ, які сьцягнуўся назіраць за пахаваньнем, не саромеючыся лез адзін аднаму на плечы, сплёўваючы семкі:

– Слыш, Вася, а па целеку ён не такі лысы, як на самой справе.

– Дура ты, там жа яго грыміруюць... Гэта ж усё-такі прэзыдэнт!

– Ды я пра Дубко, ёлупень!

Некаторыя гарадзенцы прыходзілі сюды сем'ямі.

– Мама, а салют будзе? – пытаецца ў моцна нафарбаванай матулі 5-гадовы смаркач, пабачыўшы вайскоўцаў. Але маці не можа яму адказаць, бо выглядае маладога тату, які пайшоў купляць паветраныя шарыкі на Савецкую. Той вяртаецца без шарыкаў, але па вушы накачаны півам «Атэла».

– Дубко не памёр, ён проста выйшаў папаліць... – гэта валасаты пацан з нашыўкай NIRVANA дае інтэрвію польскай тэлевізіі. Пранікнёны прагруз перарываюць мянты, якія пачынаюць мудохаць нэфармала па нырках і цягнуць у пастарунак разам зь недапітай бутэлькай «Крыжачка»...

Пахаваньне Дубко сабрала на плошчы гораду дзясяткі тысяч грамадзянаў і перакрыла па рэйтынгу «Санта-Барбару» і «Чарнобыльскі шлях-96» разам узятыя. Вось яскравы прыклад, як улада можа згуртаваць вакол сябе такую колькасьць народу, што апазыцыі й ня сьнілася ў эратычных снах. Безумоўна, напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў досьвед заходняй сталіцы варты пераймання на ўсіх узроўнях ●



*Чым часьцей будуць паміраць губэрнатары, тым больш людзей пабачыць прэзыдэнта*

## Салдацкі раман

Усенародная любоў да газэты *Навінкі* параджае хвалю нізкапробных падражаньняў і служыць падмуркам для забіваньня няхілых бабак прадстаўнікамі т.зв. «бульварнага дэтэктыву». Вось і ў раманах піцерскага пісьменьніка Чаркасава на першы плян нечакана выйшлі пэрсанажы беларускай палітычнай сцэны, якія лаюцца матам, жруць ЛСД, страляюць з «калашоў» і трахаюць малалетак. Карацей, прымітыўны плягіят матэрыялаў газэты *Навінкі*, якая ўжо шмат год самааддана даводзіць да народу праўду аб палітыках і іхных цёмных захапленьнях. Адзінае, на што мы спадзяемся - што чытач сам разьбярэцца, дзе чыстая праўда, а дзе трывіяльнае графаманства ў пагоні за доўгім рублём. Скажам рашучае «Не!» спэкуляцыі на перадавых дасягненьнях беларускай журналістыкі! ●

## З мэханікаў у гуманітарыі




Былы зэк, банкір і кандыдат у прэзыдэнты Міхаіл Чыгір заяўляе пра рэпрэсіі супраць ягонай сям'і. Як стала вядома, сына Чыгіра арыштавалі па абвінавачваньні ў гандлі скрадзенымі запчасткамі. Як ні дзіўна, аўтарэмонтным бізнэсам Чыгір-малодшы займаецца даўно, але чамусьці, пакуль Чыгір-старэйшы быў прэм'ер-міністрам, яго ніхто не чапаў. Цяпер сын банкіра, просты працаўнік «з рукамі па локаць у мазуце» вучыць арго на Валадарцы, чакаючы вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў. Магчыма, пасьля іх сын з бацькам здолеюць сустрэцца ізноў ●

# Асьцярожна – мазгаеды

99 адсоткаў беларускіх маладых мам пачынаюць дзень з пазыўнымі праграмы ОРТ: саджаюць свайго карапуза перад экранам, каб ён патарчаў ад прыгод тэлепузікаў. Ня ведаюць, што сваімі рукамі аддаюць неакрэплы дзіцячы арганізм на расьцярзаньне псіхам, пэдафілам ды іншым вычварэнцам.

Кожны, хто касіў па дурцы ад сьвятога абавязку, павінен памятаць тэст, які яму прапаноўвалі прайсьці на мэдычнай камісіі. Айбаліты падсоўвалі паперу з алоўкам і між іншым прасілі намаляваць неіснуючую ў сьвеце жывёлу. Галоўны прыкол палягаў у наступным: калі кандыдат на халяўны ваеньнік стварае на паперы твар з тэхнічнымі аксэсуарамі – прапэлерамі, калёсікамі або антэнай – то лічы, што запаветная чырвоная кніжэнцыя ў яго ў кішэні. Ну не бяруць у войска людзей з падазраньнем на шызафрэнію або аўтызм (акурат на гэты дыягназ указваюць такога кшталту малюнкі).

Абараняць Радзіму ад NATO дэбілаў не бяруць. Затое ў анімацыйную студыю BBC, дзе майстрачаць сэрыі пра «Тэлепузікаў», вярбуюць палатамі і аддзяленьнямі, нават даведку не пытаюць. Адсюль і ідавочныя дэвіяцыі іхных пэрсанажаў. Тэлепузікі дэманструюць брэдаадносіны і тэхнічныя аўтаматызмы. Напрыклад, несьвядома падпарадкоўваюцца зьнешнім галасам: «Тэлепузікі, час ісьці спаць, куды падзеліся тэлепузікі, абдымемся, усім прывітаньне». «Ну, і што?» – вякне нейкая атручаная рэлігіяй мамаша. – «Жана Д'Арк таксама пасіўна сьледавала зьнешнему голасу і ў выніку, хаця яе й паджарылі на вугольлях інквізыцыі, стала французскай зоркай».

Тады, шаноўная матрона, як наконт пэдафіліі? Героі Эна Вуда (рэжысэр праекту) жывуць у прасторы, дзе няма часу. Тэлепузікі не старэюць. Між тым у любым падручніку пэдафіла сказана, што для вычварэнцаў катастрафічным зьяўляецца старэньне аб'екту ягонай сымпатыі. На пэдафільскі фон сьведчыць фінал праграмы, калі тэлепузікі як дэсантнікі прыгаюць у нейкую яму – у кантэксьце псыхааналізу гэта значыць вяртаньне ў мацярынскае лона. Адбываецца г.зв. «нараджэньне адваротна».

Цяпер зьвярніце ўвагу на дзяцей, якія гуляюць у тэлепузікаў. Я ўжо не кажу, што падражаючы сваім кумірам, яны ўжываюць г.зв. «пузі-крэм», эрзацам якога зьяўляецца вата, сьнег, карбід. Акрамя паранармальных гастранамічных густаў тэлепузікі навязваюць дзецям гіпэртрафаваныя цялесныя формы. Парадуючы героям, дзіця з дапамогай жэстаў павялічвае свой аб'ём. Адсюль фармаваньне паталягічнага цялеснага «я», адкуль прамы шлях да псыхаматычных нэўрозаў. Разгледзем гэтыя формы падрабязьней.

А) Анарэксія. Дзяўчынкі да і пасьля пубэртата адмаўляюцца ад ежы. Сьледзтва – парушэньне цыкла, кіслароднае галаданьне мозгу, разумовая недаразьвітасьць.

Б) Нэрвовая булемія. Ня есьці, ня есьці, а потым абжырaецца. Сьледзтва – ваніты і клізма. Анарэксія і булемія – гэта самыя папулярныя варыянты зыходу ад прагляду тэлепузікаў. У прынцыпе, можна налічыць 147 псыхічных хваробаў, выкліканых парушэньнем рэжыму сілкаваньня ў дзіцячым узросьце. Ну, нават калі арганізм і нэрвовая сыстэма вашага отпрыска ўстаялі перад масіраванай атакай усіх гэтых нэрвовых хваробаў, не сьпяшайцеся запісваць яго. Вашаму дзіцяці пагражае нэрвовы вобраз сьвету і ўяўленьне сябе ў ім. Тэлепузікі жывуць у сьвеце, напоўненым мэталічнымі дэталямі, гнутымі цьвікамі і напаўжывымі мэханізмамі. Напрыклад, тамашні пыласос. Так, што не зьдзіўляйцеся, калі малыш завядзе сяброўства з унітазам. Тут вы і прыгадаеце наш артыкул. Аднак будзе ўжо занадта позна ●

**Вова Банкін,**
пастаянны тэлеглядач




Крыважэрныя авечкі ў воўчай скуры...

# Булава Гетмана

## (інтэрактыўная аповесьць)

**«А радзімічы:мелі агульны звычай: жылі ў лесе, як звяры, елі ўсё нячыстае і бруднасловілі пры бацьках і пры нявестках: гэтага ж звычаю трымаліся і крывічы...»**

*Аповесьць мінулых гадоў*

Год ад Божага нараджэньня 1600 выдаўся цяжкім для Княства Літоўскага: паўсюль лютавала чорная воспа, чума і новая жудасная хвароба з жахлівай іншаземнай назвай «гемарой»; раз-пораз успыхвалі халопскія бунты, а шляхта пляла такія заблытаныя змовы, што заўсёды сама і трапляла ў свае ж пасткі. Артадаксальна-праваслаўнае насельніцтва краіны патрабавала вяртаньня татара-мангольскага прыгнёту, маўляў, толькі тады і быў у Дзяржаве парадак. Каталікі жадалі бачыць другое прышэсьце Хрыста, каб спытаць Збавіцеля, як ён ставіцца да апошняй булы Папы, у якой стары хрэн забараніў прадаваць ілюстраваныя індульгенцыі з выявай Марыі Магдалены, гуляючай з рымскімі жаўнэрамі ў косьці на распрананьне. У іншым выпадку адэпты Ватыкану пагражалі адмовіцца ад выплаты царкоўнай дзесяціны і выкананьня іншых грамадзкакарысных павіннасьцяў. У адказ на гэта езуіты зьвярталіся да адміністрацыі з прапановай правесьці некалькі паказальных экзэкуцыяў. Ордэну ўжо даўно было няёмка дасылаць у Рым квартальныя справаздачы, у якіх графы
«праведзена autodafe з пачатку году» і «ўсяго спалена ератыкоў» заўсёды заставаліся пустымі.

Пратэстанты пратэставалі супраць усяго і ўсіх і надрукавалі ў Празе пахабны трактат «Krivi cheljas»[1] аб карале Жыгімонце III. Кароль жа, якога ў народзе за не зусім чысты радавод празвалі «з курвы сын», не зьвяртаў на гэта ўвагі. Маўляў, што датычыцца чэлесаў, дык на сябе б паглядзелі, кальвіністы недаабрэзаныя. Калі Жыгімонта ўжо вельмі даставалі гэтыя кпіны, ён загадваў сядлаць коняў і адпраўляўся на паляваньне з сабакамі, каб загнаць пару-тройку спэцыяльна падрыхтаваных для такога выпадку вываланцаў[2].

Зьнешнепалітычная сытуацыя ў Княстве была ня лепшай. На поўначы і захадзе Тэўтонскі ордэн пеставаў пляны чарговага Super Mega Blitz Kriega. На поўдні баявікі Султанату і запароскія казакі вялі крывавую бойку за багатыя ўкраінскія плянтацыі опійнага маку. А на ўсходзе небясьпечна коўзаўся ў сваёй сьмярдзючай бярлозе-Масковіі рускі мядзьведзь; і якія цёмныя думкі брадзілі ў яго кудлатай галаве, не маглі сказаць нават самыя лепшыя каралеўскія аналітыкі.

Здавалася, што адзіным спакойным месцам у разьдзіраемым смутамі і войнамі Княстве заставаўся маёнтак копнага судзьдзі ў адстаўцы Андрэя Ст'анкевіча...

**Заданьне чытачам:**
~~Хлопчыкі і дзяўчынкі~~, знайдзіце ў іншых мовах аналагі слову чэлес.

[1] Krivi cheljas (старажытначэск.) – крывы чэлес* * Чэлес (старажытнабел. ад лат. chelae – клюшня) – першасны полавы прызнак у сярэдневяковых мужчын.

[2] Вываланец – злодзей, аб'яўлены па-за законам. У ВКЛ вываланцы выкарыстоўваліся ў гаспадарчых мэтах.

1

# Новы МАТыў для тваёй мамы




Хочаце ведаць, што ў хуткім часе будуць вытвараць на сцэне якая-небудзь Алсу ці Зэмфіра, каб менавіта ад яе твораў фанаты атрымлівалі аргазм прама ў залі? Рабіць масакру сваім інструмэнтам шляхам расхірачваньня іх аб сцэну – такая банальная фішка ўжо даўно нікога не прапрэ. Кідаць асабістыя трусікі ў натоўп – гэта таксама тэхналёгія ўчорашняга дня.

Новы просты спосаб давесьці сваіх прыхільнікаў да экстазу нечакана вынайшла для сябе поп-сьпявачка Брытні Спірс. Тысячы фанатаў прыйшлі на фэстываль у Лос-Анджэлесе толькі для таго, каб пабачаць сваю багіню. Калі яна выйшла на сцэну, усе замерлі ў чаканьні яе новага хіта пра любоў да сваёй маці (and other...). Але нечакана адбыўся аблом. У жопу бухія з нагоды фэстывалю гарачыя лацінаамэрыканскія гукатэхнікі забыліся своечасова ўрубіць «фанеру». Такая лажа імгненна сапсавала б усю музычную кар'еру любому выканаўцу. Але толькі ня Брытні Спірс.

Зразумелая справа, што дарма паспадзяваўшыся на фанаграму, Брытні дакладна ўсіх словаў ня ведала. Але яна хутка здагадалася, што рабіць. Замест словаў пра сваю любімую матулю яна ў вольным перакладзе прась-пявала прыкладна наступнае: «...» Карацей кажучы, там былі словы і пра грэбаных гукатэхнікаў, і пра долбаную невядомаю матулю. Брытні замяніла амаль усе словы ў сваёй песьні ня вельмі багатым ангельскім матам. Брытні зрабіла гэта з-за адчаю, але эфэкт адбыўся прама супрацьлеглы. Сказаць, што натоўп проста ахірэў, гэта значыць нічога не сказаць. Натоўп равеў, стагнаў, пішчаў, вычвараўся розным чынам, паўтараючы за Брытні самыя смачныя выразы амэрыканскага мату.

Тое, што першынства ў сусьветных рэйтынгах сьпявачцы забясьпечана, ня трэба нават і казаць. Ёган Сэбаст'ян Бах у труне б перакуліўся, каб даведаўся, якім чынам у XXI стагодзьдзі будуць спасьцігаць посьпех на музычным попрышчы ●

**Уладзімер Малявін,**
спэцыяліст






© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018